*Вярыга В.*А. Палітыка ўладаў Расійчкай імперыі адносна сацыялістычных і ліберальных партый (канец ХІХ — пачатак ХХ ст.) / В.А. Вярыга // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 137-140.

**В. А. Вярыга**

# ПАЛІТЫКА ЎЛАДАЎ РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ АДНОСНА САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ І ЛІБЕРАЛЬНЫХ ПАРТЫЙ (канец ХІХ — пачатак ХХ ст.)

Палітычныя партыі пачалі ўзнікаць у межах Расійскай імперыі ў апошнім дзесяцігоддзі ХІХ ст.: эвалюцыйна, на базе існаваўшых гурткоў, груп, плыняў, рухаў, явачным парадкам, як правіла, без афіцыйнай рэгістрацыі, прычым большасць з іх мела масавы характар. Фарміраванне ішло не «знізу», шляхам вылучэння найбольш актыўных членаў для адстойвання агульных сацыяльных і палітычных інтэрэсаў, а «зверху» (звычайна) — пад уплывам прадстаўнікоў інтэлігенцыі [1, с. 8]. І на тэрыторыі Беларусі гэта праявілася вельмі добра.

У Расіі быў іншым і парадак узнікнення партый, чым у Заходняй Еўропе і ЗША: спачатку аформіліся партыі сацыялістычнай арыентацыі, затым ліберальнай і, нарэшце, кансерватыўнай. Першапачаткова ўзнікалі партыі, апазіцыйныя існуючаму рэжыму, потым тыя, якія выступалі ў абарону існуючага рэжыму, пры яго ж непасрэднай дапамозе.

У 1897 г. была створана партыя Бунд, 1898 г. — РСДРП, 1901 г. — ПСР, 1903 — БСГ і інш. Пачынаўся «партыйны этап». Каталізатарам партыйнага будаўніцтва была рэвалюцыя 1905—1907 гг. Яна значна актывізавала ліберальны рух, які праявіўся ва ўзнікненні такіх партый, як Канстытуцыйна-дэмакратычная, «Саюз 17 кастрычніка». Пачалі ўзнікаць і кансерватыўныя партыі, дзе першасную ролю адыгрывала партыя Саюз рускага народа. Па падліках даследчыкаў, у Расіі ў канцы ХІХ — пачатку ХХ ст. намінальна дзейнічала каля 300 партый — агульнарасійскіх і нацыянальных. Аднак, нягледзячы на значны лік партый, агульная колькасць іх членаў была невялікай. У 1906—1907 гг. яна складала прыкладна 0,5 % ад агульнай колькасці насельніцтва краіны, прычым паміж першай і другой рэвалюцыямі існавала тэндэнцыя да скарачэння як агульнага ліку партый, так і колькасці іх членаў [2, с. 9—10].

Узнікнуўшыя партыі патрабавалі ад уладаў пэўных карэкціровак, нават часам перагляду сваіх адносін да праяў грамадскай актыўнасці. Гэта было абумоўлена шэрагам фактараў. Па-першае, партыі былі больш колькаснымі, чым, напрыклад, грамадзянскія аб'яднанні, нелегальныя групоўкі, бо маглі аб'ядноўваць людзей з розных частак краіны на падставе агульнасці мэт і задач, а не толькі аднаго горада, завода; па-другое, партыі былі добра арганізаваны (мелі праграму, статуты, іерархію і інш.) для барацьбы за ажыццяўленне пастаўленых мэт і задач; па-трэцяе, больш значнай была практычная дзейнасць партый — выданне заклікаў, адозваў, правядзення сходаў, канферэнцый, стачак, мітынгаў, афіцыйнае выданне газет; па-чацвёртае, узнікалі не толькі агульнарасійскія партыі, але і нацыянальныя (БСГ), што значна ўздымала і абвастрала нацыянальнае пытанне ў краіне; па-пятае, складанае становішча краіны, выкліканае эканамічным крызісам, расійска-японскай вайной, рэвалюцыйнай хваляй. Усё гэта разам было значным выклікам для ўладаў, і патрэбен быў адпаведны адказ.

Палітычныя памкненні партый выклікалі занепакоенасць з боку ўладаў, бо «люди, объединенные одинаковыми взглядами в вопросах государственного и общественного устройства, сплачиваются в политические партии или союзы» [3, с. 4; 4, с. 1]. Рэалізацыя сацыяльных установак партый ставілася ў залежнасць ад рэалізацыі палітычных памкненняў.

Аднак улады былі вымушаны прызнаваць факт існавання і дзейнасці партый: як адзначаў С. Ю. Вітэ, «Расія перарасла форму існуючага ладу» [5, с. 3]. У Маніфесце 17 кастрычніка

**Верига Вадим Александрович** — магистрант кафедры истории Беларуси Нового и Новейшего времени Белорусского государственного университета

1905 г. афіцыйна сцвярджалася аб «неприкосновенности личности, свободы совести, слова, собраний и союзов» [6, с. 2]. Усведамляючы, што знішчыць палітычныя партыі цалкам не магчыма, улады выпрацоўвалі адпаведную палітыку. Гэтая палітыка была адносна «персаніфіцыравана»: для партый, якія прадстаўлялі розныя плыні, існавалі розныя падыходы. Рознасць падыходаў была непарыўна звязана з сутнасцю саміх партый.

Сярод асноўных мэт палітыкі ўладаў адносна партый можна адзначыць: па-першае, калі не знішчыць партыю і не зрабіць яе сваім саюзнікам, то хаця б забяспечыць яе пэўную лаяльнасць, як мага зменшыць ролю ў грамадска-палітычным жыцці; па-другое, абмежаваць практычную дзейнасць партый, звесці яе да вызначаных «правілаў», нормаў паводзін; па-трэцяе, накіроўваць партыі на вырашэнне тых пытанняў, якія ўлады самастойна, без дапамогі арганізаванай у партыі грамадскасці вырашыць не маглі. Першымі ў Расіі ўзнікалі партыі сацыялістычнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай плыні, і яны былі апазіцыйныя існуючаму рэжыму. Напрыклад, у праграме БСГ адзначалася: «...Прызнаючы, што галоўным ворагам усіх вызваленчых памкненняў “працавітай беднаты” ў Расіі з’яўляецца царскае самадзяржаўе, БСГ лічыць сваёй найбліжэйшай задачай звяржэнне самадзяржаўя» [7, с. 67].

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі маюцца дакументы, якія тычацца дзейнасці сацыял-дэмакратаў у Мінску. Ёсць матэрыялы слежкі за членамі партыі сацыял-дэмакратаў [8]. У гэтых матэрыялах літаральна па хвілінах распісваецца, хто з рэвалюцыянераў куды або з кім пайшоў, з кім сустракаўся, колькі часу размаўляў (хаця звестак, аб чым размаўлялі, не прыводзіцца). Адзначаюцца і іх мянушкі. Аб дзейнасці рэвалюцыйна-дэмакратычных партый узгадваецца і ў «Обзоре деятельности партий по данным Департамента полиции» [9]. У дакуменце даецца агляд дзейнасці, гісторыя шэрагу рэвалюцыйна-дэмакратычных партый. Гэтыя і іншыя дакументы дэманструюць, што дзейнасць тайных, нелегальных рэвалюцыйных партый не была «тайнай» для тайнай паліцыі. Агенты паліцыі звычайна добра выконвалі сваю справу. Напэўна, палітычны рэалізм кіраваў дзейнасцю ўладаў: было зразумела, што арыштаваць усіх немагчыма, а лепш кантраляваць іх дзейнасць. Напрыклад, так было са спробай ажыццяўлення БСГ разам з прадстаўнікамі ПСР тэрарыстычнай акцыі супраць губернатара Курлава і вышэйшых чыноў жандармерыі. Як піша А. Луцкевіч у сваіх успамінах, «гэтае супрацоўніцтва грамадаўцаў з эсэраўскай баёўкай было, відаць, выкрыта “ахранкай”» [10, с. 27—28]. А. Луцкевіч быў вымушаны тайна пакінуць Мінск і пераехаць у Вільню. Хаця раней, да спроб правесці тэрарыстычныя акцыі, ведаючы аб існаванні БСГ, улады, паліцыя амаль не прымалі такіх радыкальных дзеянняў.

Такім чынам, ва ўладаў быў «выбар» палітыкі ў дачыненні да рэвалюцыйных, сацыялістычных партый. Больш таго, прадстаўнікі рэвалюцыйна-дэмакратычных партый нават атрымалі магчымасць заканатворчай дзейнасці ў межах створанай у выніку Першай расійскай рэвалюцыі Дзяржаўнай Думы. Кіраўніцтва краінай было зацікаўленна ў тым, каб рэвалюцыянеры функцыянавалі ў Думе, а не на «вуліцы». Тым больш што Дума была створана пад уплывам рэвалюцыі. Нельга ігнараваць і жаданне ўладаў рабіць усё «па закону», або хаця б рабіць выгляд гэтага. Хаця ідэалізаваць «разважлівы» падыход уладаў да Думы нельга, што добра дэманструюць роспуск 1-га яе склікання, падзеі 3 чэрвеня 1907 г. Рэаліі жыцця прымушалі ўрадавыя колы карыстацца палітычным рэалізмам пры вызначэнні сваёй практычнай дзейнасці адносна сацыялістычных партый.

З пазіцый «рэалізму» зыходзілі ўлады і пры вызначэнні сваёй палітыкі адносна ліберальных партый, якія былі не такімі радыкальнымі ў сваіх мэтах, як сацыялісты. Тым не менш і яны таксама выступалі за змяненні ў палітычным жыцці. У параўнанні з сацыялістамі, якія акрамя палітычнай сферы планавалі значныя змяненні і ў сацыяльна-эканамічным жыцці дзяржавы, лібералы звычайна першае месца адводзілі грамадска-палітычным змяненням. Менавіта памкненні той або іншай сілы ў палітычную сферу найбольш і не падабаліся ўладам. Аднак, напэўна, няправільна будзе казаць, што ўлады адносіліся да лібералаў выключна

адмоўна, як адносна рэвалюцыйна-дэмакратычных партый. Хутчэй можна пагадзіцца з расійскай даследчыцай Л. В. Ульянавай, якая сцвярджае, што «вобраз "ліберальнага" ва ўяўленнях чыноўніцтва балансаваў на грані «признаваемо-одобряемого и порицаемого», час ад часу пераходзячы ад адной адзнакі да іншай» [11, с. 1]. З аднаго боку, улада не жадала іх прымаць, а з другога — яны былі куды больш прывабныя, чым сацыялісты, якія наогул імкнуліся не абмежаваць, а знішчыць самадзяржаўе.

Зразумела, што ліберальныя партыі адрозніваліся паміж сабой па мэтах, задачах, глыбіні плануемых пераўтварэнняў. Сімваламі расійскага лібералізму пачатку XX ст. сталі дзве палітычныя партыі — Канстытуцыйна-дэмакратычная і «Саюз 17 кастрычніка», якія, як адзначаюць даследчыкі, прадстаўлялі дзве плыні расійскага лібералізму. Больш радыкальная, левая плынь — кадэты і больш кансерватыўная, правая — акцябрысты. А. Тыркова-Вільямс, якая з'яўлялася членам ЦК кадэцкай партыі, у сваіх успамінах піша: «Становішча кадэтаў было даволі кур'ёзнае. Партыя не забароненая, як былі забароненыя сацыялістычныя партыі. Змовамі кадэты не займаліся, вусна і пісьмова адкрыта выкладалі свае погляды. Нашы юрысты ўпарта імкнуліся правесці наш статут праз Міністэрства ўнутраных спраў, узаконіць партыю і заўсёды атрымлівалі адмову» [12, с. 357—358]. Па сутнасці, форму функцыянавання кадэтаў і тых, хто так або інакш іх падтрымліваў, можна хутчэй ахарактарызаваць як «афіцыйна не прызнаныя легальна дзеючыя партыі».

«Саюз 17 кастрычніка» 10 кастрычніка 1906 г. усё ж такі быў афіцыйна зарэгістраваны пецярбургскім граданачальнікам, г. з. прызнаны царскім урадам легальна дзейснай арганізацыяй [7, с. 155]. Фактычна акцябрысты не былі супраць царызму, рэдка яго крытыкавалі і прадстаўлялі правае крыло ліберальнага руху. І па сутнасці, амаль заўседы знаходзіліся аддалена ад левага крыла лібералізму. Акцябрысты хутчэй знаходзілі «адзіную мову» з чарнасоценцамі, чым з кадэтамі, што добра праявілася ў межах «Паўночна-Заходняга краю», дзе існаваў нават большы кансерватызм акцябрыстаў у параўнанні з партыяй у цэлым [13, с. 16].

Такім чынам, нават такая значная і вядомая партыя, як кадэты, якая амаль свабодна магла праводзіць свае сходы (хаця і там заўсёды былі агенты паліцыі), выдаваць сваю літаратуру, не была афіцыйна легалізавана. Больш таго, як адзначалася ў лістоўцы СРН «К русскому народу» (1906 г.): «... самы небяспечны вораг Расіі Канстытуцыйна-дэмакратычная партыя, у аснову якой пакладзена: склікаць замест Дзяржудумы Устаноўчы сход, то бок новы ўрад і далоў цара і падзяліць Расію на часткі па народнасцям...» [14, с. 168]. Для «сапраўдных патрыётаў», чарнасоценцаў, кадэты былі нават больш небяспечнымі, чым рэвалюцыянеры-сацыялісты. З чым жа было звязана такое стаўленне ўладаў да лібералаў і ў першую чаргу да кадэтаў? Па-першае, з іх прэтэнзіямі на палітычную сферу, на заканатворчую дзейнасць, якая доўгі час была прэрагатывай толькі цара. Па-другое, гэта пэўны «страх» царызму перад вялікай колькасцю адукаваных, фінансава незалежных людзей. Людзей, якія займалі розныя дзяржаўныя пасады, вядомых у сваім грамадстве і свеце, актыўных у грамадскім жыцці. Гэтыя людзі маглі самастойна разважаць і мелі грошы, каб ператвараць свае думкі ў рэчаіснасць. Ад сацыялістаў-рэвалюцыянераў улады прыкладна ведалі, чаго чакаць, а вось чаго чакаць ад ліберальных партый, яны да канца не ўспрымалі.

Стварэнне Думы знізіла рэвалюцыйную хвалю, перавяло незадаволенасць значнай часткі насельніцтва ( у тым ліку і лібералаў) у сцены парламента. З-за пэўнай абмежаванасці Думы ў заканадаўчай дзейнасці і пры актыўным удзеле ў яе дзейнасці царызм здолеў захаваць уладныя прэрагатывы. Для царызму найлепшым было абмежаваць дзейнасць ліберальных партый Дзяржаўнай Думай і пільна кантраляваць іх. І самі ліберальныя партыі не вельмі супрацівіліся гэтаму: лібералы «жылі» ў «сваёй» парламенцка-манархічнай краіне, у той час як улады толькі распачыналі засвойваць новыя палітычныя рэаліі.

Падводзячы вынікі, адзначым, што стаўленне ўрадавых колаў да палітычных партый прайшло пэўную эвалюцыю — ад іх поўнага адмаўлення і барацьбы супраць іх да «палітычна-

га рэалізму», пры якім поўнае адмаўленне партый саступіла месца «дэ-факта» прызнанню легітымнасці іх існавання і нават імкненню выкарыстоўваць іх патэнцыял у сваіх мэтах. Аднак значная кансерватыўнасць урадавых колаў так і не дазволіла палітычным партыям трывала заняць сваё месца ў палітычнай сферы Расіі.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Вернигоров, В. И.* Политические партии России и Беларуси: страницы истории : пособие для вузов / В. И. Вернигоров. Минск : Тесей, 2008. 432 с.
2. Политические партии России: история и современность. М. : Российская политическая энциклопедия, 2000. 631 с.
3. Программы главнейших русских партий. М. : Библиотека свободного народа, 1917. 64 с.
4. *Гамбаров, Ю. С.* Политические партии в их прошлом и настоящем / Ю. С. Гамбаров. 2-е изд. СПб. : Тип. Альтшулера, 1905. 48 с.
5. Всеподданнейший доклад статс-секретаря графа Витте // Полный сборник платформ всех русских политических партий / С прил. высочайшего манифеста 17 окт. 1905 г. и всеподданнейшего доклада гр. Витте: іспр. и доп. по послед. резолюциям парт. съездов. СПб. : ННШ, 1906. С. 3—6.
6. Высочайший манифест // Полный сборник платформ всех русских политических партий / С прил. высочайшего манифеста 17 окт. 1905 г. и всеподданнейшего доклада гр. Витте: испр. и доп. по послед. резолюциям парт. съездов. СПб. : ННШ, 1906. С. 1—3.
7. История политических партий: материалы для самостоятельной работы студентов / В. К. Коршук [и др.]; ред.: В. К. Коршук, И. Ф. Романовский. Минск : БГУ, 2002. 286 с.
8. Дневник наблюдения за членами местной (Минской) организации социал-демократов (14 апреля 1908 г. — 30 ноября 1913 г.) // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 705. Воп. 1. Спр. 5.
9. Обзор деятельности партий по данным Департамента полиции // НГАБ. Ф. 2498. Воп. 1. Спр. 12. Л. 26—37.
10. *Луцкевіч, А.* За дваццаць пяць гадоў (1903—1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская рэвалюцыйная грамада, Беларуская сацыялістычная грамада / А. Луцкевіч. 2-е выд. Мінск : БелСЭ, 1991. 64 с.
11. *Ульянова, Л. В.* Политическая полиция и либеральное движение, 1880 — октябрь 1905 гг. : автореф. дис. ... канд. ист. наук / Л. В. Ульянова. М. : Моск. гос. ун-т им. М. В. Ломоносова, 2009. 22 с.
12. *Тыркова-Вильямс, А.* На путях к свободе / А. Тыркова-Вильямс. М. : Московская школа политических исследований, 2007. 392 с.
13. *Лаўрыновіч, Д.* Акцябрысты ў Беларусі (1905—1913 гг.) / Д. Лаўрыновіч // Беларускі гістарычны часопіс. 2008. № 2. С. 11—17.
14. К русскому народу [Листовка СРН] // Правые партии. 1905—1917. Документы и материалы: в 2 т. 1905—1910 гг. М. : Российская политическая энциклопедия, 1998. Т. 1. С. 168—170.


## РЕЗЮМЕ

У артыкуле аўтар аналізуе палітыку ўладаў Расійскай імперыі адносна сацыялістычных і ліберальных партый і паказвае, што стаўленне ўладаў да партый прайшло эвалюцыю ад адмаўлення партый да вымушанага прызнання іх існавання.

## SUMMARY

The author of the article analyzes the policy of the authorities of the Russian Empire concerning socialist and liberal parties and shows that the attitude of the authorities to the parties underwent the process of evolution from denial of the parties to the forced acknowledgement of their existence.

Статья поступила в редакцию 3 сентября 2011 г.